**Пуцяводныя думкі**

О, высокія пачуцці маці! Ваш цень, нават слабы ваш водбліск робіць сэрца чыстым і набліжае людзей да анёлаў.

*Ч. Дзікенс*

Дайце нам найлепшых маці, і мы будзем найлепшымі людзьмі.

*Жан Поль*

Маці — адзінае на зямлі багацтва, не ведаючае атэістаў.

*Э. Легуве*

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 21 (1004) ГОД XX 25 МАЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.

**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**

## Альшанка

Невялічкая вёсачка-вуліцоўка ў Беластоцкім павеце паблізу шашы Заблудаў-Нараў. У ёй усяго 23 гаспадаркі і 92 жыхары.

Мала вядома з гісторыі гэтай мясціны, адно толькі, што была яна паншчыннай вёскай і належала да двара ў суседняй **Малынцы**. Але затое вакол цэлая паэма мясцовых назваў, з якіх шмат што можна вычытаць з мінулага **Альшанкі**. Лугі тут называюцца: **Бярозаў Груд, Дуброва, Закліме, Ендзоўшчына, Крынычка, Луг, Лужок, Мокрадзь, Сяськоўшчына**, а палеткі — **Барок, Бярозаў Груд, Глей, Грэбенькі, Дзевяць Загонаў, Крынычка Вялікая, Крынычка Малая, Міжыхвайна, Падбелкі, Сяськоўшчына, Чатыры Загоны, Шырокі Надатак**; лясы ж і пералескі: **Багно, Барок, Гаравая Гара, Закрыніца, Крынічка**.

Жывуць тут: **Аляксейчук, Андрэюк, Асіпюк, Астапчук, Вяйкоўскі, Врублеўскі, Дзікевіч, Канецкі, Кляпчэўскі, Кужалеўскі, Манах, Сасноўскі, Тарасюк.**

Калісьці вёсачка жыла бедна, бо зямля тут слабая і людзям цяжка было знайсці дадатковы занятак, калі, напрыклад, у сям'і было многа рук да працы, а гаспадаркі тае, што кот наплакаў. Цяпер людзі жывуць тут добра. Найлепшым гаспадаром лічыцца **Яўген Кужалеўскі**, які ў год дастаўляе па 20 штук кормнікаў, гадуе 4 дойныя каровы і ўбойнае быдла. Мала што яму ўступае солтыс **Янка Вяйкоўскі**, што займаецца таксама гадоўляй свіней і малочнага быдла. Усе гаспадары ў **Альшанцы** маюць свае плантацыі трускалак, і гэта надта даходны занятак.

Як амаль у кожнай вёсцы на Беласточчыне, так і ў **Альшанцы** ёсць чалавек з залатымі рукамі. **Аляксей Канецкі** — гэта патомны столяр. Рамяству вучыўся яшчэ ад свайго дзеда Івана, слаўнага на ўсю ваколіцу цесляра і столяра, дапамагаў свайму бацьку Дзям'яну, які таксама ў вольную хвіліну не цураўся ад гэбля і пілы. Але гэтага мала. А. Канецкі цэлы год быў вучнем у Андрэя Грыняўіцкага ў Іванках, а потым здабываў майстэрскія правы ў Беластоку. Мае сваю добра абсталяваную сталярню з камплектам машын, а спецыяльную трохпамерную габлярку збудаваў сам.

(Працяг на стар. 4)



**„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ—75"**

Актэт з Белавежы — удзельнік сёлетняга цэнтральнага агляду ў складзе: Вікторыя Акляевіч, Лідзія Бушко, Марыя Габец, Вера Тарасэвіч, Валянціна Капусняк, Тамара Купінь, Марыя Ліцкевіч, Вера Храноўская.

Фота Я. Цялушэцкага.

**Новыя вершы**

*СУСТРЭЧА З МАЦІ*

*Дзень добры, мама!..*
*Рук тваіх*
*Такі шчаслівы сёння шчэбет,*
*Што неба мала на дваіх*
*І цэлы свет для іх патрэбен.*
*Здаецца, твой вярнуўся май.*
*І мне аж боязна азваццa.*
*Нібыта мне — яшчэ не дваццаць,*
*Нібы мяне — яшчэ няма...*
*Малю, каб кожны дзень збярог*
*Цябе такою*
*ў гэтай хаце...*
*У валасах тваіх — пяро*
*Маладых акацый...*

Любоў Тарасюк

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

Васіль Быкаў: „Адна ноч" ● Гурток са Скупава ● Літстаронка ● Фотарэпартаж з Бераставіцы ● Доктар Уладзімір Стохель ● Памяці К. Машынскага ● Што ў Агародніках? ● Ражнеўскія Весткі з Ляшкаў, Пасынкаў, Бельска, Гуранаў, Тыневіч Вялікіх, Астраўка, Зубава, Давідавіч, Чыжоў, Шудзялава, Гародчына ● Калі прысніцца смерць ● Дзіцячы гумар ● Песня „Radość o poranku".

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## ПРАЦАЎНІЦА, ГАСПАДЫНЯ, МАЦІ

Цяпер у СССР жанчыны складаюць больш палавіны ўсіх працаўнікоў народнай гаспадаркі— 51 працэнт рабочых і служачых і 52 працэнты калгаснікаў. У Беларусі сярод працаўнікоў народнай гаспадаркі 53 працэнты жанчын. (Дарэчы, жанчыны складаюць большасць насельніцтва краіны — на пачатку 1970 года іх частка ў насельніцтве складала 53,7 працэнта. Гэта дыспрапорцыя выклікана галоўным чынам мінулай вайной).

189 — столькі жанчын Беларусі носіць найвышэйшае працоўнае званне — званне Героя Сацыялістычнай Працы, каля 64 тысяч працаўніц узнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

І аб кожнай з іх наш часопіс хацеў бы расказаць. Як, напрыклад, аб калгасніцы Марыі Жарко. У сябе ў калгасе імя Дзяржынскага, што на Гродзеншчыне, Марыя працуе механізатарам, водзіць камбайн, арэ зямлю, сее і збірае хлеб. У вольны час сядае за кнігу: яна вучыцца завочна ў сельскагаспадарчым інстытуце.

А нядаўна аб Марыі даведалася ўся краіна — і як аб найлепшай ва ўсесаюзным конкурсе трактарыстак, і як аб пераможцы тэлевізійнага конкурсу „Ану, дзяўчаты!", дзе дзяўчаты паказвалі свае майстэрства ў грамадскай працы і ў вядзенні хатніх спраў, танцавалі, чыталі ўлюбёныя вершы.

...Нарыс „Вачу вашыя рукі" пазнаёміць чытачоў з вядомым вучоным доктарам медыцыны, галоўным афтальмолагам Беларусі прафесарам Таццянай Бірыч. У лёсе Таццяны Бірыч, былой сялянскай дзяўчыны з вёскі Лошніца пад Мінскам, як у кроплі вады, адлюстраваўся той вялікі шлях на веды, у навуку, які прайшлі савецкія жанчыны старэйшага пакалення. Во ў Беларусі, напрыклад, да рэвалюцыі больш 80 працэнтаў жанчын былі непісьменнымі. А цяпер у рэспубліцы сярод спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй

(Працяг на стар. 2)

**Наша галерэя**



Міхаіл Савіцкі „Партызанская мадона".




# ПЕРШЫ Ў НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Нядаўна на паліцы кніжных магазінаў паступіў падручнік па граматыцы беларускай мовы, апрацаваны Лідзіяй і Мікалаем Гайдукамі*). Вучні і настаўнікі школ з прадметам беларускай мовы, якія дагэтуль карысталіся адпаведнымі мінскімі выданнямі, атрымалі падручнік, упершыню складзены мясцовымі аўтарамі і выпушчаны краёвым выдавецтвам. Ужо гэта акалічнасць выклікае зразумелую цікавасць да гэтай выдавецкай навінкі, якая на працягу некалькіх гадоў будзе важнейшым дапаможнікам па вывучэнню роднай мовы ў школах.

Падручнік прызначаецца для вучняў вышэйшых класаў пачатковых школ (V-VIII) і, згодна з патрабаваннямі праграмы навучання, змяшчае выклад цэлага матэрыялу па граматыцы. Матэрыял распланаваны паводле агульнапрынятага лагічнага парадку: раздзел I — фанетыка, II — слоўнікавы склад мовы, III — склад слова, IV — часціны мовы і V — сінтаксіс. Акрамя таго, ва ўводнай частцы прыводзяцца кароткія асноўныя паняцці аб развіцці беларускай мовы, яе дыялектах і месцы сярод іншых моў свету.

Пры апрацоўцы падручніка аўтары карысталіся апошнімі дасягненнямі беларускай лінгвістычнай навукі і кансультацыямі моваведаў — навуковых работнікаў Варшаўскага універсітэта. Несумненна, вялікую ролю адыграў пры гэтым шматгадовы педагагічны вопыт аўтараў, аб чым сведчыць простая кампазіцыя матэрыялу і зразумелы пераказ асноўных граматычных палажэнняў. Гэтыя станоўчыя рысы падручніка абумоўліваюць яго прыдатнасць у вучэбнай практыцы.

Акрамя шырокага прадстаўлення дзвюх асноўных частак — марфалогіі і сінтаксіса, і параўнальна кароткага пераказу самых асноўных паняццяў па фанетыцы (магчыма, згодна з праграмнымі ўказаннямі), вялікую цікавасць прадстаўляе раздзел, прысвечаны лексікалогіі. Нягледзячы на невялікі аб'ём (12 стар.), знаёміць ён вучняў з паняццем і інтэрпрэтацыяй слова, анонімамі, сінонімамі, антонімамі, архаізмамі і неалагізмамі, а таксама характарызуе іншамоўныя ўплывы ў беларускай мове. Раздзел запаўняе істотны недахоп, які адчуваўся настаўнікамі пры карыстанні існуючымі дагэтуль дапаможнікамі.

Форма пераказу матэрыялу — несумненна, адна з важнейшых рысаў кожнага падручніка па граматыцы. На карысць аўтараў і падручніка выходзіць параўнальна шырокае выкарыстанне табліц, асабліва ў частцы, прысвечанай марфалогіі. Здаецца, аднак, што гэтую сучасную і эфектыўную форму навучання можна было б прымяняць смялей і больш. Між іншым, была б вельмі прыдатнай табліца для дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання, а таксама для ілюстрацыі ўтварэння дзеепрыметнікаў.

Практыкаванні з'яўляюцца адным з найважнейшых элементаў сучаснай методыкі навучання мовы. Праўда, яны ўлічаны пры вывучэнні кожнай тэмы, аднак іх вельмі мала і да таго не дыферэнцыруюцца па класах. У такім плане нельга выключыць магчымасці, што адно і тое практыкаванне будзе паўтарацца ў паасобных класах. Можна зразумець, што ўлік такога патрабавання значна павялічыў бы аб'ём цэлай кніжкі, таму неабходным здаецца дадатковы выпуск спецыяльных сшыткаў, якія змяшчалі б практыкаванні згодна з патрабаваннямі праграмы навучання і ў адпаведнасці з кампазіцыяй падручніка.

Асаблівую ўвагу звяртае спроба аўтараў прыстасаваць падручнік па граматыцы беларускай мовы да канкрэтных умоў, у якіх жыве і вучыцца моладзь на Беласточчыне. Гэта, бадай, адна з найбольш арыгінальных рысаў, якая вылучае кніжку з прымяняемых дагэтуль савецкіх дапаможнікаў.

Трэба сказаць, што гэтае імкненне выявілася ў кантэксце шматлікіх разглядаемых пытанняў. Так, напрыклад, на фоне ўсіх беларускіх дыялектаў даецца характарыстыка гаворак Беласточчыны (стар. 7.), часта і з сэнсам змяшчаюцца адпаведныя граматычныя тэрміны на польскай мове, а таксама лексічная адаптацыя шэрагу польскіх геаграфічных, палітычных, культурных і іншых тэрмінаў і паняццяў. Гэтая піянерская задача напэўна не была лёгкай, і аўтары ў нешматлікіх, на шчасце, выпадках пайшлі на такія кампрамісы паміж нормамі беларускай літаратурнай мовы і штодзённай практыкай, як, напрыклад, „Слёнскі вутальны басейн" (стар. 29), ці „Слёнск-Дамброўскі" (замест „Сілезія", „Сілезскі").

У плане прыстасавання падручніка да нашай рэчаіснасці прыводзяцца ў паасобных яго частках шматлікія практыкаванні — пераклады з польскай на беларускую мову. Гэты параўнаўчы метад заслугоўвае на вялікую ўвагу і, нягледзячы на цяжкасці (у тым ліку нават для настаўнікаў), можа і павінен даваць станоўчыя вынікі. Калі, аднак, гаворым пра збліжэнне падручніка да нашых умоў, заўважаецца, на жаль, адсутнасць у практыкаваннях прыкладаў творчасці А. Барскага, Я. Бурша, Я. Чыквіна, В. Шведа, С. Яновіча і іншых мясцовых беларускіх літаратараў. Справа не толькі ў папулярызацыі нашых пісьменнікаў, але і ў выкарыстанні шэрагу мясцовых, блізкіх вучням тэрмінаў і паняццяў.

Не змяняючы ацэнкі вартасці падручніка, хочацца выказаць некаторыя апасенні адносна тэхнікі яго выкарыстання згодна з прызначэннем, г. зн. у класах V-VIII. Здаецца, што кампазіцыя матэрыялу для чатырох розных класаў у адной кніжцы можа выклікаць акрэсленыя цяжкасці ў працэсе навучання. У сувязі з гэтым настаўнікі беларускай мовы павінны быць забяспечаны гарманізаванымі са зместам падручніка падрабязнымі праграмнымі ўказаннямі.

Комплексны выклад матэрыялу і высокі ўзровень апрацоўкі даюць падставу для ацэнкі, што новы падручнік па граматыцы можа быць карысным і зручным дапаможнікам як для вучняў сярэдніх школ, так і для дарослых, зацікаўленых сістэматызацыяй і паглыбленнем сваіх ведаў у галіне беларускай мовы. З мэтай зрабіць кніжку больш даступнай, хацелася б бачыць яе ў продажы таксама ў аддзелах БГКТ.

**Зінаіда Туронак**

*) Лідзія Гайдук і Мікалай Гайдук. Беларуская мова. Граматыка для V-VIII класаў. Школьнае і педагагічнае выдавецтва. Варшава 1975, стар. 264, цана 15 зл.






*Да школы ў Дашах вучні з суседніх вёсак даязджаюць вось у такім арыгінальным „аўтобусе".*



*Найлепшыя дашаўскія спартсмены: Я. Астапковіч, І. Гапанюк, М. Мартыновіч, І. Міцэвіч, Л. Пікула, Г. Рошчанка, М. Рошчанка, М. Рошчанка, З. Сіліvановіч і М. Скачко разам са сваім настаўнікам па фізкультуры і трэнерам Міхалам Рачкевічам.*

Што добра пастаўлены навучальна-выхаваўчы працэс у школе вымагае не толькі лекцыйных заняткаў на высокім метадычным узроўні, але і цэлага комплексу належна прадуманых пазаўрочных прац — гэта асноўнае патрабаванне сучаснай педагогікі. Яно паслядоўна і з выдатнымі вынікамі ажыццяўляецца ў зборнай васьмікласнай школе ў Дашах, што на Гайнаўшчыне.

Перш за ўсё тут вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў вельмі старанна дбаюць пра чысціню і парадак у школе і яе наваколлі, а ўпрыгожаныя сцены класаў і калідораў — гэта вынік іх працавітых рук. Не шкадуюць яны захадаў і пры тым, каб школьны панадворак выглядаў, як цацка. Старанна памалявалі яны агароджу, вароты і веснічкі, прылады на пляцоўцы гульняў для дашкольнікаў, а ўсе кветнікі і клумбы абрамавалі каляровымі панелямі.

Дашаўскім школьнікам па праву належыцца ганаровае званне шчырых прыяцеляў прыроды. У мінулым годзе яны пасадзілі каля шасці гектараў лесу на няўдобіцах каля Кляшчэляў і Навасёлак, а ў іх школьным садзе ўжо абліты цветам 35 фруктовых дрэўцаў, што яны некалькі год таму назад купілі за грошы з даходаў школьнага кааператыва. Самі пасадзілі, а потым беражліва даглядалі. Каля дрэўцаў і кустоў парэчак у садзе цягнецца доўгі рад парнікоў, у якіх юныя агароднікі вырошчваюць салат, радыску, зялёную цыбульку да бутэрбродаў для школьнай сталовай і мноства расады ранняй капусты, якую потым перадаюць вясковым гаспадыням. Не забываюцца і пра іншае варыва, бо ўлетку пры школе працуе дзяцінец і для яго сталовай у школьным гародзе заўсёды гатова сакавітая моркаўка, чырвоныя памідоры, хрумсткія агуркі і ранняя бульба.



*Галіна Насковіч не толькі дасканалы прадавец, але і выдатніца ў VII класе.*

Сваё дзесяцігоддзе святкуе цяпер школьны кааператыў. Ён добра забяспечаны таварамі і бойка гандлюе, штодзень мае па 400-600 злотых выручкі. У мінулым годзе дашаўскія кааператыўшчыкі мелі звыш 70 тысяч злотых абароту і 5 500 злотых даходу. За гэта арганізавалі калектыўны агляд фільма „Патоп", набылі продзіжы і іншае абсталяванне. Калісьці кааператыў пачынаў сваю дзейнасць з 600 злотых, што сабраў з з членскіх складчын і атрыманай дапамогі ад бацькоўскага камітэта, а цяпер кааператыўная маёмасць мае вартасць звыш 13 тысяч злотых.

Любяць працу школьнікі ў Дашах. І не толькі для дабра сваё школы. У мінулым годзе старэйшыя прымалі ўдзел у рамонце дарогі да суседняй вёскі Жукі, а малодшыя пасадзілі пабапал яе дрэўцы. Паклапаціліся таксама пра памаляванне агароджы вакол вясковай крамы.

Сістэматычнай працы над сабой вымагае і школьны спорт. І тут дашаўскім школьнікам толькі пазайздросціць. У мінулым годзе ў ручным мячы яны занялі першае месца ў Гайнаўскім павеце, атрымалі дыплом і залатыя медалі. У тым жа годзе Галіна Рошчанка заваявала сярэбраны медаль у кіданні ядра на VI павятовых гульнях школьнай моладзі.

Усё гэта дапамагае дашаўскім школьнікам мець выдатныя вынікі ў вучобе ў сваёй школе і потым, пасля яе заканчэння, у сярэдніх школах Гайнаўкі, Бельска, Беластока.

**М. Гайдук**
**Фота аўтара**



*Пад наглядам дырэктара школы Ігната Рошчанкі вучаніцы І. Міцэвіч, М. Рошчанка, Г. Рошчанка і В. Цыбулінская працуюць пры парніках.*

# У цэнтры здароўя

А ніводнай скаргі. Гэта вельмі рэдка здараецца. Сяляне наогул любяць панаракаць на доктара. У вёсцы Новаберазова, што на Гайнаўшчыне, доктар Зофія Штылер збірае адны пахвалы.

Вясковы цэнтр здароўя знаходзіцца ў будынку, у якім раней была грамадская рада нарадовая. Да гэтага цэнтра прыпісаны дзевяць вёсак: Дубічы Асочныя, Махнатае, Новы Корнін і інш. У будынку ёсць пачакальня на 40 асоб, а да лекара кожны дзень прыходзіць больш 50 чалавек. У панядзелкі і сераду тут бывае найбольш пацыентаў, найменш у суботу.

У кабінеце пані доктар адбываюцца прафілактычныя праверкі, прышчэпкі, праверка здароўя дзяцей — здаровых і хворых. У другім пакоі змяшчаецца добра забяспечаны аптэчны пункт. У штодзённых клопатах лекару дапамагаюць медсёстры Лена Пліс і Люся Катэльчук. У цэнтры здароўя ёсць адзін пакой вольны, і ўсе чакаюць лекара-дэнтыста, які ў беразоўскім асяроддзі вельмі патрэбны.

Доктар Зофія Штылер — мілая, ветлівая і прыемная жанчына. Калі чалавек зойдзе да яе, яна заўсёды пагаворыць. Хто б не быў — ці малады, ці стары, яна з усімі ўмее жыць. Выходзячы з яе кабінета, лягчэй на сэрцы. Такога другога лекара няма ва ўсёй ваколіцы.

**Цюльпан**

 

Пачатак на стар. 1

## АЛЬШАНКА

— Займаўся я раней цясёлкай, будаваў дамы. Любіў таксама і аздобіць іх разьбою, — прыгадвае ён. На розныя разьбяныя ўпрыгожанні найлепш надавалася сасновая або яловая сухая дошка. Узор на разьбу выбіраў, бывала, так: едзеш па якой-небудзь вёсцы і прыглядаешся на аздобленыя разьбою вуглы, шчыты, падстрэшнікі і потым сам нешта камбінуеш на паперы. Калі ўжо што-колечы склеіцца, тады перарысоўваеш на картон і па гэтаму шаблону вырэзваеш. Цікавая работа была! А цяпер дык ужо не тое. Цяпер усе гоняцца за тым, каб гладка ды хутчэй.

Апрача сталяркі, А. Канецкі займаецца і гаспадаркай. На васьмі гектарах гадуе 4 каровы, 9 свіней, садзіць трускалкі.

Спакойная і ціхая гэтая Альшанка. І хоць да шашы яна адвярнулася клунямі, але варта яе наведаць.

**М. Гайдук**
**Фота аўтара**



*Аляксей Канецкі каля дома суседа, які ён збудаваў і аздобіў разьбою некалькі год таму назад.*

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

У Відаве многа калоній. Яшчэ не так даўно былі яны без электрычнасці. Яшчэ не так даўно, але не цяпер. Цяпер ва ўсіх дамах электрычнае святло ззяе. Цешацца людзі. Можна вечарам і кніжку, і газету пачытаць. Хутка паявяцца тэлевізары. Электрычнасць — гэта добрая рэч!

**Валянціна Анапюк**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ВАСІЛЬ БОБІК

Селянін Васіль Бобік з вёскі Крывяцічы Бельскага павету вядомы як прыкладны гаспадар. Са сваёй 10-гектаровай гаспадаркі, якую вядзе супольна з зяцем Федзем Канопляй (на здымку), прадае дзяржаве 40-50 цэнтнераў збожжа, 7-8 свіней і 5-6 тыс. літраў малака ў год. Добра ўдаецца ў яго ячмень „Дамазы" і "Эльгіна", а таксама пшаніца „Міраноўская".

Вопытны земляроб пабудаваў дзве аборы і адзін з прыгажэйшых у вёсцы дамоў з цэнтральным ацяпленнем і кранам з вадой.

Васіль Бобік у 1946 годзе быў узнагароджаны медалем „За перамогу над Германіяй".

Зяць Федзя Канопля ўжо пяты год працуе трактарыстам у мясцовым сельгасгуртку. Два гады выконвае ён функцыю брыгадзіра.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



## НЕПРЫЕМНА

У чаромхаўскай „Прыгранічнай" часта даводзіцца бачыць, як нецвярозыя наведвальнікі робяць непарадкі ў рэстаране, дрэнна сябе вядуць. Можна таксама наглядаць факты, як афіцыянтка вымушана п'янага вывалакаць з залы (няўжо гэта яе абавязак?)

Людзі п'юць да ўпаду. Не шкадуюць ні здароўя, ні грошай. Мала таго. Сваімі паводзінамі парушаюць спакой іншых. Вось, напрыклад, у канцы лютага Збігнеў Драбюк, Уладзімір Якубюк, Сцяпан Мушкатэль і Станіслаў Ваўжыняк пачалі біцца ў зале. Пабілі многа пасуды. Хуліганамі адразу занялася чаромхаўская міліцыя. Справа была накіравана ў карна-адміністрацыйную калегію ў Гайнаўку. Неўзабаве яны атрымалі прысуд: штраф З. Драбюку — 4.500 зл., Ул. Якубюку — 2.500 зл. і 300 зл. за страты для рэстарана. Калегія адступіла ўмоўна ад пакарання С. Мушкатэля і Ст. Ваўжыняка, хоць і яны былі вінаваты.

Гэты факт няхай будзе прыкладам усім тым, каму б прыйшло ў галаву парушаць парадак і спакой.

(к-ус)

## Новыя павільёны „ВІТАМІНЫ"

Кааператыў „Вітаміна" ў Бельску вядзе сваю дзейнасць у трох паветах: Гайнаўскім, Бельскім і Сямяціцкім. Мае ён 16 фірмавых павільёнаў з агароднінай, фруктамі, мёдам і насеннем агародніны. У мінулым годзе кааператыў перадаў у эксплуатацыю гандлёвы павільён у Белавежы. У гэтым годзе такі павільён атрымаюць гайнавяне. У 1976 г. будзе адкрыты яшчэ адзін павільён у Бельску. (ця)

## ФАЛЬШЫВЫ СІГНАЛ

### ПІСЬМО ПАКЛІКАЛА Ў ДАРОГУ

Атрымалі мы пісьмо ад чытача з вёскі Галады Бельскага павету, які падпісаўся Я. Пятроўскі. Была гэта крытычная інфармацыя аб працы прадаўшчыцы ў Галадах. Можна было б мець да рэдакцыі прэтэнзію за тое, што ўжо ў першым сказе падае імя і прозвішча аўтара крытыкі. А крама тая ж у той самай вёсцы, у якой пражывае аўтар. Чаму тады рэдакцыя не затрымала прозвішча аўтара толькі да свайго ведама?

Мы паехалі ў вёску Галады і зайшлі ў краму. У ёй прадаўшчыца ветліва абслугоўвала ўсіх пакупнікоў. Мелі яны да выбару багаты асартымент тавараў.

Нам неабходна было правесці размову з жыхарамі Галадоў. Што яны самі скажуць аб прадаўшчыцы і працы мясцовай крамы? Сустракаем аднаго дзядзьку, які назваў сябе якраз Пятроўскім(!), але імя яго не Я(зэп), не Я(н), не Я(куб). Мы разгаварыліся. Наш субяседнік сказаў, што крытычныя заўвагі адносна працы прадаўшчыцы гэта хлусня. „Скляповая" працуе ў краме ўжо некалькі гадоў і дбае пра яе. Праўда, было такое здарэнне. Аднойчы зайшла жонка па мужа ў краму, а той, як гэта і раней часта здаралася, і на гэты раз быў п'яны, дык яна ў спрэчцы кінула ў яго бутэлькай, трапіла ў вагу і разбіла яе. Але пры чым тут прадаўшчыца...

Наведалі мы члена самаўпраўлення крамы, але яго не было дома. Была яго жонка і яна нават хваліла прадаўшчыцу і добрае забеспячэнне крамы ўсялякімі таварамі.

Яшчэ раз зайшлі мы ў краму і папрасілі кнігу скаргаў і прапаноў. У ёй мы не знайшлі ніводнай крытычнай заўвагі, а наадварот шмат цёплых і сардэчных слоў удзячнасці за добрую працу. Кніга тая, калі ласка, на відным месцы ля ўваходу ў краму. Можна праверыць. На заканчэнне нашай паездкі ў Галады мы зайшлі да солтыса. Яго жонка (солтыс паехаў у службовых справах у Бельск) не мела ніякіх заўваг да працы прадаўшчыцы і гэтым самым пацвердзіла выказванні аднавяскоўцаў, якіх сустрэлі мы ў тую раніцу. На вуліцы спыніў нас наш знаёмы грам. Пятроўскі. Ён цікавіўся, ці аднасяльчане былі згодны ў сваёй апініі адносна прадаўшчыцы. Выявілі мы, што ў Галадах ёсць многа Пятроўскіх, але няма нікога, хто меў бы імя, якое пачыналася б на „Я". Відаць, хтосьці схаваўся пад прозвішчам Пятроўскіх. Хто мог так пісаць? Паспрабуйце адшукаць яго. Усё-ткі мы даведаліся, хто пісаў і чаму. Пісала жанчына. Сапраўднае яе імя і прозвішча пакуль не будзем падаваць. Чаму яна так пісала? Хіба ж нашыя чытачы не сустракаліся з людской зайздрасцю і тупой злосцю? Аўтар крытычнай інфармацыі рабіў гэта з акрэсленым намерам, лічачы на асабістую карысць.

Столькі аб пісьме і сапраўдных фактах.

На заканчэнне нашай публікацыі просім нашых чытачоў, не пішыце ананімаў, бо не дачакаецеся на іх адказу. А фальш так ці інакш выйдзе на яву. Калі ласка, пішыце, крытыкуйце, калі каго трэба пакрытыкаваць, але не забывайцеся падаць сваё поўнае імя і прозвішча, дакладны адрас. Калі лічыце гэта за патрэбнае, у заканчэнні пісьма зазначце, што толькі да ведама рэдакцыі. І рэдакцыя не выявіць вас, а каго трэба пакрытыкуе. (ця)

## Выйграў электрычны парнік

Васіль Міхалюк з Чыжоў выйграў электрычны парнік у „Акцыі-1000" на нумар 20020467 прэміраванай ашчаднай кніжкі, заложанай у мясцовым спулдзельчым банку.

Шчаслівўца віншуем!

**Я. М.**




## Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА VI

**Грамадская лірыка.** Грамадскія і палітычныя праблемы, звязаныя з жыццём усёй краіны або індывідуальных герояў, з'яўляюцца зместам многіх вершаў Гаруна. У іншых творах праблемы гэтыя займаюць фрагментарычную пазіцыю. У вершы пад загалоўкам „Як надарыцца мінюта" Гарун, як бы выкарыстоўваючы прыёмы грамадскай лірыкі Някрасава, звяртаючыся да роднага краю, заяўляе:

„Ты няшчасны і убогі,
Ты бяздольны і забіты,
Ты без шляху і дарогі,
Ты абдзерты і прапіты,
Подлай здрадаю прадзаны,
Ты не свой, — даўно забраны.

Верш канчаецца страфой, у якой паэт выяўляе надзею на адраджэнне краіны, на яе росквіт, на шчасце, якое стане ўдзелам калі не сучаснага паэту пакалення, дык пакалення дзяцей.

Грамадскія алюзіі выступаюць таксама ў алегарычным вершы „Ваўкалакі". У гэтым творы паэт выкарыстоўвае фальклорны матыў аб ваўкалаках, якія жывяцца чалавечай крывёй. Пачвары гэтыя знікаюць толькі тады, калі заспяваюць пеўні. У заключнай страфе аўтар як бы адштурхоўваецца ад казачнага матыву і пераходзіць да характарыстыкі палітычна-грамадскай беларускай рэчаіснасці. Гаворыць ён, што па краіне бушуюць ваўкалакі, якім не пагражае ні спеў пеўняў, ні сонца. Каго мае на думцы паэт, гаворачы аб „ваўкалаках", сказаць цяжка. Праўдападобна, чужынцаў або багатых.

Спецыфічнымі рысамі характарызуецца верш „Эх сягоння, у гэту ночку". Твор гэты складаецца з дзвюх роўных частак. У першай частцы аўтар стараецца ўвасобіцца ў ваўка, вужа, арла, зорку, каб такім чынам хутчэй дастацца да роднага краю. Другая частка верша прасякнута грамадска-палітычнымі настроямі. Паэт хоча заахвоціць „люд галодны" да пратэсту, да бунту, да паходу супраць існуючай грамадскай сістэмы. У вершы гэтым выступаюць выразныя рэвалюцыйныя матывы.

Устануць, рушаць: „Проч з дарогі!
Хто нам хоча заступіць?
Мы пайшлі, мы люд убогі,
Усё узяць, ці ўсё згубіць".

Трэба сказаць, што такія крайнія, катэгарычныя грамадскія сцвярджэнні ў паэзіі Гаруна досыць рэдкія. Зрэшты, і ў гэтым вершы вымова іх моцна аслабляецца апошняй страфой твора. У гэтай страфе аўтар падкрэслівае, што ўся прадстаўленая ў вершы карціна барацьбы — гэта толькі ўяўленне, толькі думка, толькі мара паэта.

Моцна гучаць грамадскія матывы ў вершы „Паэту". Твор гэты мае праграмны характар. Можна назваць яго ідэйным credo паэта. Гарун займаецца тут характарам творчасці паэта, адносінамі творца да жыцця і народу. Вызначае ён літаратуры вялікую місію ва ўсведамленні народа ў яго барацьбе з нядоляй. У гэтым дасканалым з фармальнага і ідэйнага пункту гледжання вершы Гарун умела выважыў індывідуальнае і агульнае, удачна спалучыў прыватнае з грамадскім. Вымова верша ясная. Зводзіцца яна да таго, што паэт не можа займацца абстрактнай матэрыяй тады, калі народ жыве ў бядзе. Можам у творы заўважыць элементы богаборства, закіду ў адрас неба, якое абыякава адносіцца да лёсу людзей. Варта прывесці некалькі строф з гэтага цікавага і арыгінальнага твора:

Пакінь, пакінь спяваць аб праўдзе тэй, што ў небе!
Яна чужая нам, таемных праўда сіл;
Яна не сходзіць к нам у кончанай патрэбе,
Калі пакутны дзень так довег і не міл!
Прашу цябе, мой брат, спявай аб нашым горы,
Аб тым, што ёсць цяпер і што даўней было,
І што на ўсякі твар кладзець, як плуг разоры,
І што ў мільёнах душ разоры правяло.
Прашу цябе, спявай аб горы песнь адну ты,
А наш гаротны лёс рабі яшчэ цяжэй,
Тады, пабачыш сам, парвуцца духу путы,
І будзе ясны дзень да нас тады бліжэй.

Глыбока, арыгінальна, абагульняюча і філасофска гаворыць Гарун аб грамадскім аспекце жыцця чалавека ў санеце „Жыццё". Верш гэты мае іранічны характар. Вастрыё яго скіравана супраць кожнага з нас. А вось яго змест: Вол усё жыццё паслушны волі гаспадара („Цярпліва зносіць ён нявыгады жыцця"). Увесь парадокс сітуацыі заключаецца ў тым, што чалавек, гаспадар, селянін — пан над волам з'яўляецца таксама волам у адносінах да можных гэтага свету. У вершы гучыць скрыты пратэст супраць падняволення, залежнасці, эксплуатацыі. Супраць сляпых, якім „добра у цьме".



 

(Працяг са стар. 2)

# ПЯСНЯР БЛАКІТНАГА ДОНА

за другім два зборнікі яго апавяданняў; „Данскія апавяданні“ і „Блакітны стэп“. Надзвычай прыхільныя, як на літаратурны дэбют, ацэнкі крытыкаў М. Шолахаў чытае ўжо ў сваіх родных мясцінах над Донам, куды ён вярнуўся са сталіцы, каб прыступіць да працы над вялікім гістарычным раманам, які потым абыдзе ўвесь свет пад загалоўкам „Ціхі Дон“. Пасля звыш двух гадоў напружанай працы паяўляюцца ў 1928 г. першы і другі тамы гэтага палонячага сэрца чытачоў усіх кантынентаў эпасу аб казачастве. Але гісторыя, хоць і не надта адлеглая ад сучаснасці творцы, не магла задаволіць пісьменніка, і ён прыступае да напісання першай часткі не менш слаўнай ад „Ціхага Дона“ аповесці „Паднятая цаліна“ (1932), у якой па-майстэрску адлюстраваў барацьбу за сацыялістычныя пераўтварэнні, што ў тым часе адбываліся ў данскіх станіцах і хутарах. У тым жа годзе выходзіць трэці том „Ціхага Дона“, а апошні, чацвёрты, паяўляецца аж у 1940 годзе. Чатырнаццаць з лішнім год напружанай працы прысвяціў М. А. Шолахаў гэтаму шэдэўру савецкай і сусветнай літаратуры, пра які А. Горкі пісаў: *Яго можна параўнаць толькі з „Вайной і мірам“ Талстога.*

У час вялікіх выпрабаванняў, у гады Вялікай Айчыннай вайны М. Шолахаў на фронце, ён — ваенны карэспандэнт газеты „Красная звязда“. У друку паяўляюцца прасякнутыя глыбокім патрыятызмам яго артыкулы і нарысы, а ў франтавых запісных кніжках пісьменніка — накіды і замалёўкі будучага рамана „Яны змагаліся за Айчыну“, працу над якім пісьменнік закончыць аж у 1966 годзе. У міжчасе ў канцы 1959 г. ён завяршае працу над другой часткай „Паднятай цаліны“ і піша ў 1957 г. патрасаючае апавяданне „Лёс чалавека“.

Творы М. Шолахава заваявалі чытачоў і ў СССР і на свеце. У Савецкім Саюзе яны выходзілі 817 разоў агульным тыражом звыш 53 мільёнаў экземпляраў на 80 мовах, на свеце ж — у 47 краінах каля 700 разоў на 45 мовах.

І няспынна здзяйсняюцца пажаданні М. Шолахава — лаўрэата Ленінскай і Нобелеўскай прэміі — выказаныя ім у Стакгольмскім ратушы, калі ён прымаў прызнанае яму адзначэнне: *„Я хацеў бы, каб мае кнігі дапамагалі людзям стаць лепшымі, стаць чысцейшымі душой, абуджалі любоў да чалавека, імкненне актыўна змагацца за ідэалы гуманізму і прагрэсу чалавецтва. Калі гэта ўдалося мне ў якойсьці ступені, я шчаслівы“.* (іс)

## Ф·А·Л·Ь

ВЯСЕ.




*Ляцеў сакол з чужых старон,*
*упаў, воду п'ючы.*
*Заплакала сіротанька,*
*да шлюбу ідучы.*
*— Чаго плачэш, дзіця маё,*
*што табе трэбо?*
*— Ой, плачу я, прыплакую,*
*што ойца і маткі нема.*
*Каб я была зязюленькаю,*
*Паляцела б на магілку,*
*сказала б: — Ку-ку!*
*Падай, тату, падай, маму,*
*хоць правую руку.*
*— Рада была бы, дзіця маё,*
*Абедзві даці —*
*Сыра земля, жоўты пясок,*
*німа як ўстаці.*
*Сыра земля, жоўты пясок,*
*німа як ўстаці.*

Ад Марыі Юровец, 1921 года нараджэння, вёска Навасёлкі Беластоцкага павету, запісаў у кастрычніку 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### ПЁТР КАЗАЧУК

У пачатковай школе Пётр Казачук быў адным з лепшых канькабежцаў. Апрача таго, добра рэкамендаваўся як баскетбаліст. У сёмым і восьмым класах пачаў кідаць кап'ё і дыск. На міжшкольных спаборніцтвах заваяваў першае месца ў кіданні дыску. Яшчэ ў першым класе беларускага ліцэя ў Бельску выступіў на павятовых спаборніцтвах у кіданні дыску і заняў трэцяе месца. Найбольш верным астаецца аднак баскетболу. Каманда баскетбалістаў, у саставе якой выступае П. Казачук, лічыцца адной з лепшых у Бельску.

Малады баскетбаліст знаходзіцца таксама на ўліку юнацкай баскетбольнай каманды спартыўнага клуба ВСС „Сполэм“. Гэтая каманда ў мінулым годзе выйграла ваяводскі чэмпіянат. Пасля ўжо з меншым поспехам, але выступіла ў чэмпіянаце Польшчы, які адбыўся ў Влацлаўку. Заняла пятае месца.

У гадах 1972-1974 Пётр Казачук займаўся таксама велагонкай і лічыўся найлепшым у гэтай галіне спорту ў павеце. Удзельнічаў у спаборніцтвах велагоншчыкаў Беластоцкага ваяводства, а нават у цэнтральных гонках.

Цяпер Пётр Казачук прысвяціў свой вольны ад навукі час (ён з'яўляецца вучнем III класа) выключна баскетболу. Трэніруецца пад добрым вокам трэнера Станіслава Максімовіча, шматгадовага і вопытнага настаўніка па фізкультурных занятках сярэдняй школы.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## ДЗЕ КУПІЦЬ МЛЫНОК-СЬРУТОЎНІК?

Некалькі год таму назад паявіліся ў продажы вельмі добрыя млынкі-сьрутоўнікі тыпу „СД-ІА (Н 123)“, цана 4650 зл. Малоць імі можна не толькі восыпку, але і разовую муку. Млынок гэты вельмі добры і таму, што стаіць ён роўна і на падлозе, і на таку, не „танцуе“. Мука адразу сыплецца ў мяшок. На жаль, такіх млынкоў няма ўжо дзе купіць. Ці перасталі выпускаць? **Я. М.**

## Юбілей бельскай сельскагаспадарчай школы

Сельскагаспадарчы тэхнікум ў Бельску існуе ўжо 30 год. Дзейнасць сваю пачаў у 1944/45 школьным годзе. Ён раўеснік краіны. За гэтыя гады навуку закончыла тут каля 1500 чалавек. Большасць з іх працуе на Беласточчыне, многія ў розных ваяводствах нашай краіны, некаторыя жывуць і працуюць за граніцай.

За гады народнай улады пабудавана заходняе крыло школьнага будынка, спартыўны будынак і дом-інтэрнат для 200 вучняў.

Дзейнасць школы на працягу 30-годдзя была тэмай навуковай сесіі, якая адбылася 13 красавіка 1975 г. На сесіі прысутнічалі выдатныя дзеячы сельскагаспадарчай адукацыі Падляшша, настаўнікі і вучні старэйшых класаў сельскагаспадарчых школ з Бранска, Рудкі к/Бранска, Боцькаў і Бельска Падляшскага. З прамовамі выступалі вучні апошніх класаў бельскага Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства. Прамовы іх былі прысвечаны развіццю сельскагаспадарчай адукацыі ў нашай краіне, у Беластоцкім ваяводстве і на Падляшшы. У дыскусіі вучні гаварылі аб вялікім значэнні і дзейнасці сельскагаспадарчай школы ў Бельску Падляшскім.

**Мікалай Няплоха**

## „КУЛЬТУРА“

Амаль на кожным аўтобусным прыпынку, ды і ў іншых публічных месцах на сценах павыпісваны — вымаляваны нецэнзурныя брыдкія словы. Агіда іх чытаць. Культурны чалавек у смутку мінае іх. Брыдка бачыць такое нашае паніжэнне ў ХХ стагоддзі. Вядома, разумны чалавек гэтага не робіць. Такую дурніцу робяць хуліганы, хаця бываюць выпадкі, што і сур'ёзныя кавалеры займаюцца гэтай „паэзіяй“.

Хочацца сказаць і тое, як вядуць сябе часта вучні пачатковых школ. На прыпынках вучні-хлопцы агідна ругаюцца, а дарослыя і чуюць гэта, і пускаюць край вушэй. Што рабіць? Цяжкая гэта справа. Колькі часу яшчэ пройдзе, калі сапраўдная культура возьме ў нас верх?

**М. Панфілюк**

## РАЗЬБА ПА ДРЭВУ ЯГО САМАЯ ЛЮБІМАЯ СПРАВА



Яўген Жукоўскі пражывае ў вёсцы Лука на Гайнаўшчыне. Пасля заканчэння пачатковай адукацыі астаўся на матчынай гаспадарцы. Бацька яго загінуў у апошнюю вайну. Яўген помніць яго добра. Бацька патрапіў з дрэва зрабіць амаль усё. Малады хлапец пасвіў кароў над Нарвай і ў лесе. Яго захапляў лес, яго багацце і незвычайная прыгажосць. Заўважаў у лесе цуды, якія стварыла сама прырода. Яму здавалася, што амаль кожная галінка, сучок, вылезшы з зямлі карэньчык нешта гаварыў яму. Ён пачаў, прыклаўшы трошкі працы, пераўтвараць гэтыя карэньчыкі, зарослыя мохам карчы ў звяроў, птушак, у казачныя персанажы. Атрымалася лясная скульптура.

З часам аднавяскоўцы і жыхары ўсяго наваколля зацікавіліся яго простымі, але цікавымі фігуркамі. Яўген пачаў рэзьбіць па дрэву фігуры белавежскіх зуброў, ласёў, казуль і грыбоў. Ахвотных купіць у яго гэтыя фігуркі знайшлося столькі, што трэба было адмаўляць. Яўгену не падабаецца рэзьбіць абы хутчэй, абы з рук або на густ пакупніка. Ён аддае гэтаму ўсё сэрца. Новыя задумы цікавых фігур не давалі яму спаць па начах. Вясковы мастак-разьбяр пачаў шукаць розныя сарты дрэў. Пакінуў ранейшыя стандартныя рэзьбы. Сам спрактыкаваўся як найлепш кансерваваць зробленыя рэзьбы, як прыдаць ім прыцягваючы вока бляск. Вечарамі і цэлымі днямі, асабліва зімою Яўген Жукоўскі працуе на адзіноце. З-пад яго ўмелых рук выходзяць фігуры, якія з ходу могуць захапіць кожнага. Многія з іх раскрываюць дар, які хаваецца ў тайніках яго душы. Сталее і расцвітае яго мастацтва.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## Ці ведаеце, што...

...у мінулым годзе на Беласточчыне пражывала 1198 тысяч жыхароў, у тым ліку на вёсцы 715 тысяч (59,7%).

...жыхаркі Беластоцкага ваяводства ў 1974 годзе нарадзілі 23.000 дзяцей, з чаго вясковыя жанчыны 13,8 тысяч і гарадскія 9,2 тысяч.

...у мінулым годзе ў Беластоцкім ваяводстве дзейнічала 116 кіназалаў, 153 бібліятэкі, 249 бібліятэчных філіялаў і 2680 бібліятэчных пунктаў.

...у Беластоку вучыцца 7000 студэнтаў.

...на Беласточчыне ёсць 110 тысяч гарцэраў і гарцэрак.

...першая ў Польшчы, а таксама першая на свеце публічная бібліятэка была адкрыта ў 1747 годзе ў Варшаве. Арганізаваў яе Юзэф Анджэй Залускі.

...на свеце пражывае 3.860 мільёнаў людзей.

...у канцы гэтага года Польшча будзе налічваць 33.850 тысяч жыхароў. (ця)

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Хачу расказаць табе сваю бяду, бо кажуць, што як чалавеку цяжка на душы, дык павінен ён перад кімсьці выжаліцца, лягчэй становіцца. Я не маю каму расказваць. Няма ў мяне ні сясгры, ні брата, адна ў бацькоў, ды і бацькі ў мяне якія... Бацька разышоўся з маткаю ўжо даўно. Ажаніўся, мае сваю сям'ю, сваіх дзяцей, дык што яму я. А маці? Маці дзень у дзень п'яная, дык што з ёю гаварыць... І таму, „Сэрцайка“, да цябе звяртаюся.

Хадзіла я з хлопцам два гады. Генік ён завецца. Калі пазнаёміліся, яму было няпоўных 16, а мне крыху на дзевятнаццаты год. Сяброўкі падсмейваліся, што дзецюка знайшла. Але ён мне падабаўся. Я яго пакахала. Былі мы тады яшчэ вучнямі, цяпер я працую. Ужо маю свае грошы; як жа шчаслівая, што ўжо самастойная! Думаю вучыцца далей завочна. Але ўсё гэта страціла для мяне сэнс, калі даведалася, што Генік ужо не хоча са мной хадзіць. Дык каб хаця прыйшоў і сам сказаў мне аб гэтым. А ён сяброўцы пазваніў, каб яна мне аб гэтым паведаміла. Як жа мне прыкра было слухаць гэта. Спачатку не магла паверыць, думала, хлусіць, хаця ведала, што салідная яна дзяўчына. Генік сказаў, што я для яго застарая, што яму ўжо надакучыла ўсё з адной хадзіць, хацеў бы пашумець. Ужо амаль чатыры месяцы, як не бачу я Геніка. Не ідзе мне ўжо навука, перастала рыхтавацца да экзаменаў, адпала ахвота вучыцца. Дык што ж мне, „Сэрцайка“, рабіць? Як жыць далей?

**Тамара з Бельшчыны**

Тамара! Сапраўды, звязалася ты амаль з дзіцём і дзіцячы яшчэ ў яго розум. Тым і можна апраўдаць яго нетактоўныя паводзіны. Бо калі нават і не хоча з табой хадзіць, дык павінен сам табе аб гэтым сказаць, а не шукаць нейкіх пасрэднікаў. Ты старэйшая, ты ўжо дарослая, думаеш паважна, але ж цяжка гэтага вымагаць ад васемнаццацігадовага хлопца, з якім ужо два гады ходзіш. А каб мог ён ажаніцца, дык яшчэ тры гады трэба чакаць. У суме аж пяць год вашага знаёмства. Рэдкасць, каб маладыя людзі столькі часу пратрывалі нарачонымі ды пажаніліся. І не шкадуй ты яго, не думай аб ім, а як найхутчэй за кніжкі вазьміся, да экзаменаў рыхтуйся. У вышэйшую школу паступіць, во справа! А хлопец знойдзецца, не бядуй!

**„Сэрцайка“**

## Вер-не-вер

### ЯСЕНЬ

**Што гаворыць галійскі гараскоп пра людзей, якія нарадзіліся паміж 22 лістапада — 1 снежня і 25 мая — 3 чэрвеня.**

Гэта прыгожае, моцнае дрэва. У яго прыемны для вока выгляд, шчуплы сілуэт, ён элегантны і свабодны ў руху. Ясень падабаецца.

Але напэўна не лёгка з ім жыць. У яго жывы характар і ён вельмі патрабавальны. Хоча, каб аб ім дбалі, думалі, хацеў бы жыць толькі так, як яму падабаецца, і рабіць толькі тое, на што мае ахвоту. Любіць самастойны і незалежны стыль жыцця, а не ўсе пераносяць гэта добра.

Ён насміхаецца з абмежаванняў, якія звычайна прыносіць жыццё, і хтосьці мог бы падумаць, што ён безадказны і пазбаўлены волі. Але так толькі здаецца: ясень вельмі добра ведае, чаго ён хоча, а яшчэ лепш, чаго не хоча. Ён амбітны як у тым, што датычыцца яго поспехаў, так і ў тым, што датычыцца яго шчасця. Калі вырашыў, што будзе шчаслівы, то можа быць настолькі эгаістам, каб стаптаць усё, што стане ў яго на перашкодзе. Ён эгаіст, але не скупы: бо падзеліцца апошнім.

Гэтая капрызная натура ў справах кахання праяўляе зусім іншыя рысы: бывае прадбачлівая і пастаянная. Якраз у гэтай галіне ясень мае найбольшыя поспехі: умее добра выбіраць. Важыць усе за і супраць. Яго шлюб з кахання з'яўляецца таксама шлюбам з рассудку. Ён рэдка памыляецца і прыкладае шмат працы, каб улажыць жыццё ўдваіх. Часта яму гэта ўдаецца.

Яго інтэлігенцыя абапіраецца перш за ўсё на інтуіцыі. Яна арыгінальная і поўная фантазіі. Так, як рабіна, вярба і арэх, ясень мае нязвыклы дар прадбачлівасці. Часта нават любіць забаўляцца ў прарока і, калі споўняцца яго прадказванні, то гэта ўмацоўвае надоўга яго славу.

Ясень заўсёды крыху іграе з прызначэннем, але гэта дрэва добрае. Не бойся схавацца ў яго цені!

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ПАНОС — ХВАРОБА БРУДНЫХ РУК

У перыяд летняй спякоты думка аб паносе ў дзіцяці часта не дае маці спаць. Глядзіць яна ўважна на стул дзіцяці і думае: „Няўжо панос?“

Сапраўды, панос гэта цяжкая для дзіцяці хвароба і патрабуе хуткай дапамогі доктара. Калі сапраўды ў дзіцяці панос, дык павінна яно атрымаць лекарскую дапамогу не пазней, чым на працягу адных сутак пасля захворвання.

Ці заўсёды аднак трэба адразу непакоіцца? У малога ж дзіцяці можа быць і пяць разоў у дзень стул! Нічога страшнага, калі ў дзіцяці ёсць апетыт, калі прыбывае яго вага, калі добра яно сябе адчувае.

Калі ж, аднак, дзіця дрэнна адчувае сябе, калі ў яго няма апетыту і стул вельмі рэдкі, часта жоўты ці зялёны з дамешкай белых грудак слізі, а часамі і крывяных жылак, з непрыемным кіслым запахам, то неабходна адразу звярнуцца да доктара.

Далейшымі прызнакамі паноса могуць быць ваніты, павышаная тэмпература і часамі боль жывата (у малога дзіцяці тады жывот уздуты, дзіця крычыць і не супакойваецца, нават калі яго возьмеш на рукі).

Калі панос не лячыць, то ён вельмі хутка аслабляе арганізм дзіцяці. Хвароба часта дае таксама ускладненні: запаленне сярэдняга вуха, альбо органаў дыхання (спрыяюць гэтаму ваніты, пасля якіх можа ўзнікнуць запаленне лёгкіх).

Што рабіць, пакуль прыйдзе лекар? Перш за ўсё прымяніць галадоўку. Замест звычайнай ежы трэба даваць дзіцяці выключна вадкасць. Даваць яе даволі часта, але ў меншых дозах. У суме, аднак, павінна быць вадкасці столькі, колькі звычайна выпівае дзіця ў дзень. Можа гэта быць кіпячоная вада, крыху змешаная са слаба пасалоджаным чаем, або рамонкай. У ніякім выпадку нельга даваць дзіцяці ніякіх клеікаў, нельга падаваць таксама вады з малаком. Усё гэта можа толькі пагоршыць стан здароўя дзіцяці.

Вылячэнне дзіцяці залежыць у вялікай ступені ад стану здароўя дзіцяці перад захворваннем, ад роду і колькасці бактэрый, якія трапілі ў арганізм, а таксама ад таго, як хутка пачалі дзіця лячыць і адпаведна даглядаць, як дакладна выконвалі ўказанні доктара.

Не малую ролю ў доглядзе хворага дзіцяці адыгрывае гігіена. Кожная новая бактэрыя, якая за пасрэдствам брудных рук і прадметаў, негігіенічнай ежы, бруднай соскі трапяць у арганізм дзіцяці, можа яшчэ пагоршыць стан яго здароўя. Нельга забывацца аб тым, што разносчыкамі бактэрый з'яўляюцца таксама мухі.

Дзіця, хворае паносам, трэба трымаць у цяпле, але нельга яго пераграваць. Пакой дзіцяці трэба пастаянна праветрываць.

**Эскулап**

### ГАРАДСКІЯ ЗАРЫСОЎКІ



*Саколка, Веластоцкая вуліца.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пастановай павятовага ўпраўлення І. Л. атрымаў ва ўласнасць гаспадарку, у тым ліку сялібу з домам і іншымі будынкамі. У доме здаўна пражываў яго сваяк П. Л. Спасылаючыся на гэтую пастанову, І. Л. патрабуе ад П. Л., каб той пакінуў яго дом. П. Л. уступіць з хаты не хоча, гаворачы, што ён з'яўляецца супольным уласнікам сялібы і будынкаў і пастанова павятовага ўпраўлення нязгодна з законам, тым больш, што ён займае частку дома больш дваццаці год. Ці можа І. Л. патрабаваць прымусовага высялення П. Л.?

АДКАЗ: Пастанова павятовага ўпраўлення, якой прызнаецца ўласнасць на аснове закону аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, з'яўляецца важным тытулам уласнасці і можна на яго аснове патрабаваць прымусовага высялення з хаты і сялібы. Калі зацікаўленая асоба лічыць, што пастанова не згодна з законам, то можа дабівацца сваіх правоў у адміністрацыйным парадку. Калі б яму не паведамілі аб тым, што вядзецца справа аб прызнанні ўласнасці І. Л. і ён не браў у ёй удзелу, то можа патрабаваць перад уладай, якая прыняла пастанову, аднаўлення справы. Правамоцная пастанова звязвае суд, які не мае права ацэньваць, ці выдадзена яна згодна з законам, ці не.




Апошнюю міну Сівы вырашыў замаскіраваць ля самага краю плаціны, дзе сцежка-пераход крута паварочвала ўбок. Ён паклаў міну за пазуху і нетаропка пайшоў па сцежцы.

— Рукі ўверх! Павярніся!

Голас быццам зваліўся з неба.

Сівы спыніўся, падняў рукі і павярнуўся тварам да бункера.

— Табе давядзецца выканаць работу наадварот... Размінаваць праход...

Ліслівы, ціхі голас. Маленькая адтэрміноўка? Напэўна, ён баіцца, што іх сапёры могуць не паспець... Трэба толькі не рухацца. Тады ён наблізіцца.

— Варушыся!..

Сівы адчуў дыханне таго, хто гаварыў. „Час!“ Ён рэзка і хутка прысеў, захапіў рукамі краі плашча фашыста.

Усё вырашыла секунда. Уладальнік ліслівага голасу пераляцеў цераз галаву разведчыка і цяжка ўдарыўся аб зямлю. Пісталет адляцеў убок і знік у хмызняку.

Сівы зрабіў крок да невядомага, той спрытна ўскочыў на ногі і выкінуў наперад правую руку з нажом.

Шлях да бункера і бяссонная ноч адабралі ў разведчыка вельмі шмат сіл. Ён ударыў левай і прамахнуўся — фашыст нырнуў пад удар. І ўсё ж правай Сівы перахапіў узброеную руку праціўніка.

Яны былі ў самага ўрэза плаціны. Сілы пакідалі Сівога.

— Здавайся! — хрыплым голасам прагаварыў вораг. — Табе не ўцячы... Капітан школы разведчыкаў Зігфрыд Апель чагосьці варты ў гэтай вайне...

— Вось і пазнаёміліся, — нягучна прамовіў Сівы, адчуваючы на грудзях холад апошняй міны. У час сутычкі ён зусім забыў пра яе.

Удар кулаком у жывот прыгнуў яго наперад. Другі ўдар — у падбародак. „Цяпер трэба ўпасці. Ён павінен паверыць, што я зламаны. І ён не адмовіцца ад спакусы ўзяць савецкага разведчыка. Ён даў мне перадышку, і гэта яго памылка“.

Сівы ўпаў на калені, потым цяжка тыцнуўся тварам у зямлю.

Апель кінуўся на распасцёртае перад ім цела і сустрэў моцны раптоўны ўдар галавой. Удар быў у скіўіцу і перакінуў абвераўца на спіну. Ён паспеў выхапіць нож, але было позна ўжо. Спачатку адна рука, потым другая мёртвай хваткай сціснулася на яго горле.

Апель наўздагад наносіў шалёныя ўдары нажом, але Сівы не аслабіў хваткі, і неўзабаве абверавец змоўк.

Сівы з цяжкасцю ўстаў, трымаючыся за жывот, пахіснуўся і застагнаў.

— Нельга мне памёрці... Чуеш! — злосна зашаптаў разведчык. І зрабіў першы няўпэўнены крок. На краі абрыву ён спыніўся, дастаў з-пад курткі міну. Яна паблісківала свежымі слядамі ад удараў нажа.

„ Такі ўдар... Капітан Апель ведае, дзе размешчана сэрца“, — крыва ўсміхнуўся разведчык.

Раптам штосьці насцярожыла яго. Скрозь туман нічога не было бачна. Гул даносіўся знізу, з боку горада.

„Артылерыя, — здагадаўся Сівы, — наша артылерыя апрацоўвае пярэдні край гітлераўцаў. Праз паўгадзіны — штурм... Трэба адыходзіць, пакуль туман... пакуль туман“.

Ён дастаў з кішэні курткі ўзрывальнік, уставіў яго ў апошнюю міну, прыціснуў да грудзей і павольна пакрочыў цераз поле, угадваючы свой начны след па прытаптаным іржышчы. Дайшоў да сярэдзіны поля, калі туман рассеяўся і сталі бачны і сем соснаў, і домік Гроса, і бетоннае цела плаціны.

Убачыў разведчык і немцаў, якія беглі па краі ўрэза вады да бункера.

Сонца ўзыходзіла, і ўсё, што бачыла вока, пакрылася залатым водбліскам. І Сівому здалося, што ён ідзе па пыльнай вясковай сцежцы прама ў палі, запоўненыя залатой збажынай.

І яшчэ здалося, што ідзе яму насустрач па мяжы Букрэеў, без палкоўніцкай формы, у простым цывільным пінжаку. Ідзе і неяк дзіўна ўзмахвае рукамі, быццам збіраецца ўзляцець.

— Я жывы, Іван... жывы... — шаптаў Сівы, нагінаючыся ад болю ўсё ніжэй і ніжэй.

Фрыдрых, які бег да Сівога цераз

# У рэстаране

У рэстаран „Мара“ зайшоў элегантна апрануты, сярэдніх год мужчына. Акінуў вокам залу і сеў за столікам ля калоны.

Хвіліны праз дзве да наведвальніка падыйшла афіцыянтка і стала чакаць заказу, падрыхтаваўшы блакноцік для запісу. Вывучыўшы меню, мужчына падняў галаву і прамовіў:

— Так, так! Боршч, лангет і кава...

Афіцыянтка ўсё запісала і ўжо рушыла была ў кухню, як мужчына спыніў яе:

— Пачакайце! Я яшчэ не ўсё сказаў! Боршч павінен быць рэдзенькі, як вадзічка, ды яшчэ са смеццем розным. Лангет — цвярдзючым, як граніт, і з салоным гарнірам. Каву падайце ў шчарбатым кубку, без цукру і прыгарэлую. Ускасмачце сабе валасы і выпэцкайце сажаю рукі. А тады падавайце.

Афіцыянтка з перапалоху шмыганула ў дырэктарскі кабінет. Дырэктар выйшаў, глянуў на наведвальніка.

— Можа гэта рэвізор нейкі, — прашаптала афіцыянтка.

— Непадобны. Але штосьці незвычайнае і... Словам, выконвай заказ!

Хвілін праз дзесяць на століку ў наведвальніка стаяла ўсё заказанае, а афіцыянтка мела такі выгляд, як ён жадаў.

З'еўшы абед, наведвальнік задаволена ўсміхнуўся і прамовіў:

— Упершыню за тры гады адгаворак па-хатняму паабедаў. Дзякую.

**Мікола Тышкевіч**



— *Гэта не мама, гэта мой тата!*




**БЕЗ ЗМЕН**

— Дзядзька Ігнат, як ваша здароўе?

— Дзякуй. Хоць мне і пад семдзесят, а здароўя не страціў. На гародзе ў мяне ляжыць камень, якога трыццаць год таму не мог падняць і цяпер не магу.






— *Чаго гэта так позна?*
— *Прабач, заснуў на службе...*

**КРУЦЯЦЦА**

Сустрэліся старыя сябры — нарыхтоўшчыкі пээттэзсу.

— Ну, як ты там?

— Ды нічога, патроху кручуся.

— А Харлам як?

— Закруціўся.

— Ну?! А Свірыд?

— Свірыд? Гэты ўжо выкруціўся.

**ЯНКА**

— Вытлумач мне, Янка, чаму ў школе ты атрымліваеш толькі двойкі і тройкі?

— Адкуль я ведаю? Магчыма, усе добрыя ацэнкі ідуць на экспарт...

**МАЯ МАМА**

*— Мая мама,*
*Нібы з казкі:*
*На вушах*
*Дзве гіркі,*
*Бляшкі.*

*А ў касе —*
*Дык усё роўна,*
*Што ў снягурачкі*
*Карона.*

*І на шыі*
*Зоркі зззяюць,*
*Нібы зайчыкі*
*Мільгаюць.*

*Тата скажа*
*Вам таксама:*
*— Залатая*
*Наша мама.*

**А. Гарэлік**

**КІНДЗЮЛІС**

Сустрэліся паляўнічыя.

— Уяўляеш, я ўчора паехаў на паляванне без дубальтоўкі.

— І калі ты пра гэта прыпомніў?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Як вярнуўся дамоў і падаў жонцы зайца.

**МІНІВЕРШЫ**

**ЗАЦЯТАСЦЬ**

Пастаўлю хоць буду,
А дачнікам буду!

*Іван Курбека*



**...У яго была цяга да дабра — галоўным чынам да чужога.**

**...Ён заўсёды стараўся быць першым... у чарзе.**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

*Па просьбе Тосі Палавянюк, Гені Себясевіч, Валі Жылюк, Гені Артэмюк з Парцава, М. Леўчука з Вялікіх Тыневіч змяшчаем песню*

**ДЫРЭКТАР**

— Як твой новы дырэктар? Можна з ім працаваць?

— Цудоўны чалавек! З ім можна наогул не працаваць!

**МАЛЕНЬКІ РОТ**

У горадзе вясковы чалавек з жонкаю зайшоў да зубнога лекара, каб паставіць жонцы каронку на зуб. Той ставіць і кажа:

— Які маленькі рот у вашай жонкі!

А муж на гэта:

— Э, тут малы. Паглядзелі б, які ён дома!

**ЗМЕНШЫЎ**

Заходзіць мужчына ў буфет і кажа:

— Мне, калі ласка, трыста грамаў гарэлкі і гурок.

— А не замнога будзе?

— Ну, тады трыста грамаў гарэлкі і паўгурка.



*Рыбная лоўля патрабуе маштабнасці.*

**МАБЫЦЬ ЦЕШЫЦЦА**

— Мама, а адкуль узяўся мой маленькі брацік?

— Бусел прынёс.

— Ой, дык ён, мабыць, вельмі цешыцца, што пазбыўся такога крыкуна.

**НЕ ЗДЗІВІЛА**

Жонка будзіць мужа:

— Іван, чуеш: пеўні спяваюць. Уставай!

— Няхай сабе спяваюць, калі ім не спіцца, — адказаў муж, пераварочваючыся на другі бок.

**ПАЦЫЕНТКА**

Лекар — пацыентцы:

— Я вам раю перастаць да мяне хадзіць: у дадзеным выпадку медыцына бездапаможна. Вы абсалютна здаровы.

**ДАБРАЛІСЯ**

Мужчына і жанчына пазнаёміліся ў рэстаране.

— Я саламяная ўдава, — сказала дама.

— Цудоўна! Я ж вегетарыянец!

**СУЦЕШЫЎ**

— Скажы, сынок, калі ты перастанеш прыносіць двойкі?

— Як перастану хадзіць у школу.

**АПАВЯДАННЕ**

Пачатковец пытае рэдактара:

— Вы чыталі апавяданне, якое я вам даслаў?

— Чытаў. Яшчэ тады, калі вас не было на свеце.






**ХТО ЗАБЫЎ АФРЫКАНСКАЕ КАП'Е?**

Супрацоўнікі польскіх бюро знаходак сцвярджаюць, што мужчыны больш рассеяныя, чым прыгожая палавіна роду чалавечага. Яны губляюць свае рэчы на вуліцы або ў грамадскім транспарце ў некалькі разоў часцей, чым жанчыны. У ліку забытых мужчынамі рэчаў не толькі такія „дробязі“, як гальштукі, парасоны і пінжакі, але і прадметы больш буйныя — кантрабас, бормашына, клюшкі для гульні ў гольф. У бюро знаходак аэрапорта Акэнце, напрыклад, з'явіліся ўладальнікі такіх рэчаў мужчынскага „ўжытку“, як афрыканскае кап'ё і шчыт, стыхар свяшчэннаслужыцеля, рэквізіт факіра, у тым ліку дзве жывыя кобры.

**ІЛЬВЫ ДЛЯ АФРЫКІ**

У ГДР працуюць 9 заапаркаў. Старэйшы з іх знаходзіцца ў Дрэздэне. Ён заснаваны ў 1861 г. А самы малады размешчаны ў Эрфурце, яго пабудавалі 15 гадоў назад. Штогод заапаркі наведвае каля 13 мільёнаў чалавек.

Буйнейшы ў рэспубліцы заапарк — Берлінскі. Ён раскінуўся на плошчы 130 гектараў. У яго вальерах жыве звыш 5 тысяч розных жывёл.

У заапарках ГДР створаны выключна спрыяльныя ўмовы для размнажэння рэдкіх відаў жывёл, напрыклад, малп — у Дрэздэнскім гадавальніку, ільвоў і ўсурыйскіх тыграў — у Лейпцыгскім. У многіх заапарках Еўропы, ЗША і Канады жывуць тыгры, месца нараджэння якіх Лейпцыгскі заапарк. Нядаўна з гэтага заапарка некалькі нованароджаных ільвянят было адпраўлена... у Афрыку.




**Скажы мне, што ты не ўмееш рабіць, і я падумаю, кім цябе назначыць.**